


# Газета Слонімская

*Газета заснавана ў 1938 годзе. Аднаўлена ў 1997 годзе.*

№ 24 (105). 10 — 16 чэрвеня 1999 г. **Незалежны грамадска-палітычны штотыднёвік. Распаўсюджваецца ў Слоніме, Зэльве, Дзятлаве, Мастах.** Кошт 25.000 руб.


**ЖУРНАЛІСЦКАЕ РАССЛЕДАВАННЕ**

## ПА КІМ ПЛАЧА ЗВОН?

**На мяжы Зэльвенскага і Слонімскага раёнаў стаіць славуты помнік Беларусі — Сынковіцкая крэпасць-царква. Яна была пабудавана больш за 500 гадоў назад. Адны гісторыкі сцвярджаюць, што Сынковіцкая царква была ўзведзена пасля разбурэння ханам Койданам Слоніма ў 1240 годзе. Другія лічаць, што храм у Сынковічах быў пабудаваны па загаду князя Вітаўта ў знак удзячнасці зямлі Слонімскай. Але як бы там не было, галоўнае, што гэты ўнікальны архітэктурны помнік беларускай даўніны захаваўся да сённяшніх дзён.**



Шмат бачылі і перажылі на сваім вяку байніцы і сцены гэтага храма. Сотні сцягоў і ўладаў мяняліся, але ён выстаяў, не скарыўся. Найцяжэй Сынковіцкай царкве было пры савецкай уладзе. Храм быў аддадзены мясцоваму саўгасу (цяпер калгас "Рассвет" Зэльвенскага раёна). Там складзіравалі лён, садавіну і агародніну. Паціху храм рушыўся, знішчаўся, хаця на яго сцяне даўно прымацавана шыльда, дзе напісана, што "помнік ахоўваецца дзяржавай".

*(Працяг на 3 стр.)*

### Вада па графіку

**У гэтыя спякотныя дні ў Слоніме вада ў кватэры жыхароў мікрараёнаў Энка, Рышчыцы, а таксама вуліц Скарыны, Яршова, Тапалёвай, Брэсцкай будзе падавацца па графіку: з 6 да 10 гадзін і з 18 да 23 гадзін штодня.**

Як паведаміў карэспандэнту "ГС" выконваючы абавязкі начальніка аварыйнай службы водаканала Уладзімір Ісакаў, гэта звязана з тым, што ўзрасла патрэба насельніцтва ў вадзе для паліву агародаў.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

### Новая цана падручнікаў

**Да 1 кастрычніка 1999 года бацькі школьнікаў павінны будуць заплаціць за падручнікі 25% ад іх кошту.**

Напалову будзе зніжана плата для сямей, у якіх выхоўваецца трое і больш дзяцей школьнага ўзросту. Сіротам падручнікі будуць даваць бясплатна.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

## ХРЭСНЫ ХОД У СЛОНІМЕ



**У Слоніме прайшоў хрэсны ход праваслаўных вернікаў. Некалькі дзесяткаў чалавек на чале са святарамі, у суправаджэнні супрацоўнікаў ДАІ, прайшлі па гарадскіх вуліцах з цудатворным Жыровіцкім абразом Маці Божай. Па маршруту руху адбываліся малебны. Адзін з іх прайшоў каля праваслаўнага сабора, які цяпер будуецца, а другі — на скрыжаванні праспекта Незалежнасці і вуліцы Брэсцкай, дзе запланавана будаўніцтва царквы. Хрэсны ход працягваўся больш за шэсць гадзін.**

**А ў нядзелю, шостага чэрвеня, у горадзе прайшоў хрэсны ход каталікоў, якія адзначалі свята Божага Цела.**

**Сяргей ЁРШ**




Фота Мікалая СУПРУНА

**ВСТАТЬ! СУД ИДЕТ.**

## "ТЕРРОРИСТ" ИЗ ХОДЕВИЧ

**Слонимский суд приговорил 16-летнего Валерия Иголкина из Ходевич к трем годам лишения свободы.**

3 марта 1999 года он взял в заложники 10-летнего школьника. Приставив к его шее нож, а к голове — самодельный пистолет, Иголкин стал угрожать расправой, если кто-либо посмеет к нему приблизиться.

Дело в том, что в тот день оперативная группа милиции прибыла в деревню Ходевичи с целью расследования кражи из школьной столовой. Отрабатывая различные версии, милиционеры стали опрашивать местных подростков. В их числе был и Валерий, который вел себя возбужденно: периодически держал руки в карманах, словно боялся, что их содержимое скоро обнаружится. Подозрения оперативников оправдались. В кармане Иголкина оказалась коробка патронов к спортивному нарезному оружию, калибра 5,6мм. Подросток пояснил, что нашел их на чердаке своего дома. Каким образом боеприпасы там оказались, он не знал. Изъяв патроны и установив непричастность парня к краже, его вскоре оставили в покое. Но самое интересное то, что, расставаясь с милиционерами, Иголкин согласился отыскать и уговорить придти на беседу своего друга Саванца, который в тот момент дома не оказалось. Иголкин нашел Саванца в лесу и уговорил его пойти на встречу с оперативниками. Неизвестно, что друзьям взбрело в голову, но вышли из леса они вооруженные. У Иголкина в кармане лежал самодельный пистолет и нож, а у Саванца за поясом торчали два ножа.

В судебном заседании так и не удалось достоверно установить мотивы действий Иголкина. По его словам, он страшно испугался, что его заподозрили в совершении кражи и привлекут к ответственности за хранение патронов. Подойдя к школе, Иголкин взял в заложники младшеклассника. Никаких четко выраженных требований он не предъявлял, а только выкрикивал, что лишит мальчика жизни в случае, если кто-либо попытается к нему приблизиться. Саванец же, увидев неладное, убежал. Учителя и учащиеся, стоявшие невдалеке, с ужасом наблюдали за происходящим. До смерти перепуганный и легко одетый заложник замерзал на ледянящем мартовском ветру. На уговоры учителей и милиционеров бросить оружие и отпустить мальчишку, Иголкин не реагировал.

Один из оперативников, Николай Лагутик, был в гражданском, он то и решил вести переговоры с обезумевшим парнем. На протяжении часа он уговаривал Иголкина прекратить необдуманные действия. И тот, наконец, сдался, бросив на землю пистолет и нож...

Следует отметить, что суд направил в адрес УВД Гродненской области частное определение о поощрении Николая Лагутика за профессионализм.

Позже баллистическая экспертиза признала, что найденные у Иголкина патроны пригодны для производства выстрелов. А это значит, что захват заложника мог закончиться трагически, если бы "террорист" случайно нажал на курок...

**Валентин ЧУРИЛО**

**ЗДАРЭННІ**

### За рулём больш п'юць трактарысты

**На Зэльвеншчыне ў траўні за кіраванне транспартам у нецвярозым стане міліцыя затрымала 21-го чалавека.**

Сярод іх 12 трактарыстаў з калгасаў "Зара", "Шлях Леніна", імя Леніна, "Новая жыццё", "Каралiно", "Прагрэс" і імя Мічурына. П'янымі за рулём папаліся і два шафёры з калгаса "Рассвет".

**Алег ТАЧОНЫ**

### Бартэр не ўдаўся

**Мех мукі ўкраў у сваёй суседкі жыхар вёскі Задвор'е Слонімскага раёна 24-гадовы дагляднык жывёлы калгаса "Перамога" К.**

Як потым заявіў злодзей міліцыі, муку ён хацеў абмяняць на гарэлку.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

### Не дапамаглі і краты

**За некалькі апошніх месяцаў на Мастоўшчыне было абрабавана болей дзесяці магазінаў.**

Найбольш не пашанцавала краме ў вёсцы Пладовая. Злодзеі яе наведвалі двойчы. Першы раз, дастаўшы шыбу і пагнуўшы краты, яны вынеслі некалькі пляшак гарэлкі. Другім разам злачынцы падобным чынам скралі тавараў коштам амаль на 30 мільёнаў рублёў.

**Антон МАКЕЙ**

### Забрала вада

**На мінулым тыдні жыхары вёскі Разанаўшчына дасталі з рэчкі Шчара труп свайго аднавяскоўца, 40-гадовага Васіля Мініна, які знік 14 лютага 1999 года.**

Як паведамілі карэспандэнту "ГС" у Слонімскай міжрайпракуратуры, судова-медыцынская экспертыза не выявіла на тапельцы прыкмет гвалтоўнай смерці.

### Кіслатой у твар

**Жыхар вёскі Акунінава Слонімскага раёна, 40-гадовы жывёлавод АПФ "Шчара", пакалечыў сваю жонку.**

Падчас сямейнай сваркі ён схапіў посуд з кіслатой і лінуў у твар жанчыне. Пацярпелая змешчана ў бальніцу.

### Любіць зелле

**У доме слонімца Ш. з вуліцы Баравая міліцыя выявіла 642 грамы макавай саломкі.**

Раней ён ужо прыцягваўся да крымінальнай адказнасці за захоўванне і збыт наркотыкаў.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

### Хлеў спаліў унучак

**У Мастах на вуліцы Першамайскай 3-гадовы ўнучак, гуляючы з запалкамі, падпаліў хлеў свайго дзядулі.**

Згарэлі страха і перакрыцці будынка.

### Папаўся на бензапіле

**Дояр калгаса імя Дзяржынскага Зэльвенскага раёна ўкраў у сваёй суседкі бензапілу "Урал-2".**

Не паспеў ён яе завесці на сваім падворку, як да яго прыехала міліцыя.

**Міхась ЗАГОРСКІ**

### Недарэчная смерць

**Днямі ў Слонімскай бальніцы памерла 30-гадовая жыхарка вёскі Бярдовічы Святлана Бондарава. Прычынай смерці стаў даволі недарэчны выпадак.**

Некалькі дзён таму Святлана ў сваёй вёсцы збірала малако ад насельніцтва. Падводу, на якой яна ехала разам з дзецьмі, нечакана панёс конь. Хлопчыкі ўдала саскочылі з воза, а вось маці не пашанцавала. Яна ўпала і моцна стукнулася. Медыкі як не стараліся, але так і не здолелі выратаваць жыццё маладой жанчыны. Сіротамі засталіся двое непаўналетніх дзяцей.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

ЖАЛОБА

# ДЗЯТЛАВА РАЗВІТАЛАСЯ З АНДРЭЕМ



*Так у Дзятлаве хавалі Андрэя Бурца*

Да сённяшняга дня ўся Беларусь знаходзіцца ў шоку ад здарэння, якое адбылося ў падземным пераходзе станцыі метро "Няміга" у Мінску. Ахвярай гэтай бяды стаў і Андрэй Бурэц з Дзятлава. Прыгожы русавалосы хлопец, разумны і спагадлівы. Сёлета ён бы закончыў другі курс Беларускай аграрнай акадэміі. У падземным пераходзе на Нямізе Андрэй апынуўся выпадкова і выпадкова сустрэў там сваю смерць.

Дзятлава маланкай абляцела страшная навіна — у Бурцоў загінуў малодшы сын. Гэту добрую і працавітую сям'ю ў гарадку ведаюць амаль што ўсе. Калі Андрэя прывезлі з Мінска, каб родная хата развіталася з ім, да сядзібы Бурцоў ішлі і ішлі людзі. Кіраўнікі раёна, прадстаўнікі працоўных калектываў, аднакурснікі, сябры і проста гараджане. Такім чынам яны імкнуліся падтрымаць родных і блізкіх нябожчыка. У Дзятлаўскім касцёле, куды занеслі труну з целам Андрэя, адбылася імша, потым — на могілках — жалобны мітынг.

На другі дзень пасля пахавання Андрэя Бурца ў Дзятлава завітаў дырэктар слонімскага малога прадпрыемства "Нёман" Канстанцін Кулакоўскі. Ад імя сваёй фірмы ён выказаў бацькам Андрэя Аляксандру Уладзіміравічу і Ядвізе Іосіфаўне глыбокія спачуванні і перадаў ім ад МП "Нёман" 10 мільёнаў рублёў. Канстанцін Кулакоўскі пабяцаў гэтым людзям дапамагчы зрабіць помнік на магілу іх сына.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ, Сяргей ЧЫГРЫН**

НАВІНЫ

## У ТБМ новы кіраўнік

**Днямі ў Гродне адбылася абласная канферэнцыя Таварыства беларускай мовы.**

Са справаздачай выступіў старшыня арганізацыі Павел Сцяцко. Ён распавёў аб тым, што было зроблена на працягу апошніх гадоў і адзначыў, што адраджэнне беларускай мовы павінна ісці зверху.

Новым старшынёй абраны Аляксандр Місцюкевіч, намеснік дырэктара вучэбнага цэнтра "Гродна-энерга".

**Язэп ПАЛУБЯТКА**

## Нарэшце знайшлі дырэктара

**Пасля таго, як былы дырэктар саўгаса "Мастоўскі" Г.Каробка быў абраны старшынёй Мастоўскага райсавета, узнікла праблема: знайсці чалавека на яго месца.**

Больш за месяц кіраўніцтва раёна шукала спецыяліста, бо многія кандыдаты, даведаўшыся пра рэальны стан спраў у гаспадарцы, адмаўляліся. Па меркаваннях некаторых спецыялістаў саўгаса запазычанасці яго складаюць каля 40 млрд. руб. Урэшце рэшт заняць пасаду дырэктара саўгаса пагадзіўся аграном калгаса імя Карбышава Аляксандр Карук.

**Антон МАКЕЙ**

## Збіраюцца за мяжу

**У Італію і Люксембург паедуць на адпачынак каля 50 выхаванцаў Дзятлаўскай школы-інтэрната.**

Яны будуць жыць у сем'ях. Дамоў дзеці вернуцца ў канцы жніўня.

## Тэсціраванне на здольнасці

У Дзятлаўскім цэнтры занятасці насельніцтва праводзіцца тэсціраванне жыхароў горада і раёна, якія жадаюць ведаць усё пра сябе і свае здольнасці.

Паслуга гэта — бясплатная. Сёлета ўжо пратэсціравана каля 200 чалавек. У тым ліку 86 школьнікаў старэйшых класаў.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

## Грядет третье тысячелетие

**Гродненский облисполком утвердил план мероприятий по подготовке встречи третьего тысячелетия и празднованию 2000-летия христианства.**

Согласно плану, в феврале 2000 года в области пройдут торжественное собрание общественности и праздничный концерт, посвященные этим знаменательным датам. Подобные мероприятия пройдут во всех городах и районах области. На май 2000 года намечено проведение III республиканского фестиваля национальных культур. Будут организованы конкурсы детского рисунка «На пороге третьего тысячелетия», экологические проекты на тему «Город, деревня. Третье тысячелетие», выставки, «круглые столы», лектории, благотворительные и пасхальные мероприятия для детей-сирот, инвалидов и ветеранов.

**БелаПАН**

# РАЙСКІ КУТОК

**Санаторый "Радон", што ў Дзятлаўскім раёне, стаіць у сасновым лесе. Але не толькі цудоўная прырода і добрыя ўмовы пражывання вабяць сюды людзей з усіх куткоў Беларусі.**

Як расказаў намеснік галоўнага ўрача па лячэбнай частцы Леанід Карпішэвіч, санаторый разлічаны на 450 месцаў, а цяпер тут знаходзіцца 480 чалавек. Ды яшчэ 110 хлопчыкаў і дзяўчынак папраўляюць сваё здароўе ў дзіцячай здраўніцы "Баравічок", што размешчана паблізу.

Санаторый "Радон" — адзіная здраўніца ў рэспубліцы, дзе лечаць радонавай вадой і супрапелевымі гразямі. Тут вам дапамогуць пазбавіцца ад захворванняў апорна-рухальнага апарата, перыферыйнай нервовай сістэмы, а таксама ад гінекалагічных. Гэта — профіль санаторыя. Але ж сюды прыязджаюць людзі з рознымі недамаганнямі.

"Радон" быў задуманы і будаваўся як міжкалгасная здраўніца. Аднак сялян тут мала. І не таму, што яны не хочуць палячыцца ці не стаміліся на сельскагаспадарчых работах. Прычына банальная — няма грошай. Ні ў калгасаў, каб аплаціць пуцёўкі для сваіх працаўнікоў, ні, тым больш, у саміх калгаснікаў, каб купіць іх. І таму пераважная большасць нават невялікіх сельскіх жыхароў любуюцца "Радонам" толькі здалёк, пахаваўшы мару аб тым, што некалі там можна будзе палячыць свае балячкі, нажытыя за доўгія гады працы на палях ды фермах.

Сёння трапіць у "Радон" не так проста. Дарагія пуцёўкі. Самая танная каштуе зараз амаль 24 мільёны рублёў, самая дарагая — 50 мільёнаў. Сем працэнтаў пуцёвак санаторый рэалізуе па іншых цэнах: 34 мільёны рублёў каштуе самая танная, 92 мільёны — самая дарагая. Тым не менш, пуцёўкі на летні сезон усе раскуплены яшчэ ў красавіку.

Адпачываючыя атрымліваюць тут каля 50 відаў розных лячэбных працэдур. Гэта радонавыя ванны, гразевыя аплікацыі, розныя віды масажу (ручны, падводны, вібрамасаж), сухія вуглякіслыя ванны, лячэбная фізкультура. Ёсць басейн, саўна.

У "Радоне" наладжана выдатнае харчаванне. Дбаюць там пра культурны адпачынак. Ёсць кіна-канцэртная зала, більярдная, шахматна-шашачны клуб, бібліятэка. На возеры — лодачная станцыя. Можна пакатацца на лодках, катамаранах, пазагараць на пляжы.

Калі чалавек хоча палячыцца і адпачыць у "Радоне", то трэба звярнуцца ў раённы цэнтр па аздараўленню (цяпер яны ёсць пры кожным райвыканкаме), дзе дапамогуць купіць пуцёўку. А можна проста прыехаць у санаторый і купіць пуцёўку, каб пабываць у гэтым райскім куточку. Вядома, калі маеце грошы.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

# "ПРАЗДНИКИ БОЖИЕ НЕОБХОДИМО ПОЧИТАТЬ..."

**На прошлой неделе Слоним посетил Митрополит Минский и Слуцкий Филарет. Он принял участие в культурно-богословском вечере "Церковь и культура", который состоялся в районном доме культуры.**

Глава православной церкви выступил с проповедью. Он, в частности, сказал, что всякое деяние, совершаемое нами, имеет земное и небесное измерение.

— Мы, свидетели трагических событий в Минске, — отметил Мирополит, — должны делать для себя из этого нравственные выводы и помнить, что святая Церковь призывает нас во время христианских праздников воздерживаться от увеселений и вместо этого творить дела милосердия. Праздники Божие необходимо почитать и не оскорблять Божией святости, — подчеркнул владыка.

В связи с трагическими событиями в Минске, в подземном переходе метро "Немига", концертная программа вечера существенно была изменена. Зрители не увидели выступления заслуженной артистки России, нашей землячки Людмилы Иллариновой, которое намечалось совместно с оркестром народных инструментов РДК под управлением Марата Маликова. В программе остались только церковные песнопения.

Присутствующими тепло было встречено выступление мужского и женского регентского хоров Минской духовной семинарии, а также образцового хора "Званочак" и хора "Ветразь" СШ №8 под управлением Ларисы Юрик и Марины Володкович.

**Валентин ЧУРИЛО**



Фота IREX/ProMedia



В преддверии Пушкинского Дня приветствую читателей газеты "Слонимская" и призываю больше читать сочинения этого великого поэта, писателя, гражданина.

Митрополит Филарет

# У РЭСТАРАНЕ

**— Калі вы хочаце адпачыць, то прыходзьце ў "Шчару", а калі патусавацца — у рэстаран "Слонім", — параіла Таццяна, 36-гадовая наведвальніца "Шчары"...**

У Слоніме на сённяшні дзень працуюць тры рэстараны, ёсць некалькі кафэ і бараў. Энку, Брэсцкую і цэнтр горада індустрыя адпачынку не абышла. Калі ёсць у кішэні лішнія паўтара-два мільёны — можаце дазволіць сабе сціплы вечар на дваіх у той жа "Шчары" (рэстаране ці кафэ), "Верасе", "Слоніме" ці ў адным з бараў. Калі вы жыхар Альбярціна, то не забывайце пра апошні аўтобус альбо адкладзіце грошы на таксі. Альбярцін хоць вялікі і прыгожы раён горада (Іса, возера), але месца для ўвесяляльных устаноў там чамусьці не знайшлося...

Усе (тры) рэстараны Слоніма маюць т.з. другую нацэначную катэгорыю. Таму і клас абслугоўвання там адпаведны, разлічаны на сярэдняга кліента: уваход вольны, нейкага мінімуму заказаў не існуе. Але, калі ў выхадны ці святочны вечар вы прыйшлі ў рэстаран кампаніяй з мэтай правесці там некалькі гадзін, а заказалі толькі халодныя стравы і мінералку — вамі зацікавіцца адміністрацыя. Па-першае, таму, што сярэднестатыстычныя наведвальнікі не толькі танцуюць, але паміж танцамі яшчэ выпіваюць і закусваюць, а па-другое — ад выручкі рэстарана залежыць сума зарплаты яго работнікаў. Таму вам будуць прапаноўваць усяго пабольей, ці хаця б па аднай страве на чалавека.

Так адміністратар рэстарана "Слонім" вечарам 9-га траўня "не спадабалася" сваімі прапановамі кампаніі кліентаў з чатырох чалавек, якія заказалі дзве халодныя закускі і "Трайпл" (мінералкі не аказалася). У выніку непаразумення кліентаў з адміністратарам пацярпелі абодва бакі. І калі наведвальнікаў адміністратар пакрыўдзіла маральна, то сама яна, акрамя сапсаваных у той вечар нерваў, вымушана была заплаціць са сваёй кішэні за дзве халодных закускі, якія невядома куды прапалі падчас "разборак"...

Анекдатычная гісторыя. Яе расказалі пакрыўджаныя наведвальнікі ў сваім лісце, які даслалі нам у рэдакцыю.

**Мікола КАНАНОВІЧ**

Газета Слонімская
Рэг. нумар 947 ад 24.03.1997г.
Юрыдычны адрас: г.Слонім, Брэсцкая,109/12
Заснавальнік і рэдактар Віктар ВАЛАДАШЧУК

Адрас для пісем: 231800, г.Слонім, вул. Я.Купалы, 5.
Тэлефоны:
рэдакцыі............2-14-39
.............(017) 210-87-17
аддзел рэкламы 2-49-39

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні могуць не супадаць з поглядам рэдакцыі.

Рэдакцыя не вядзе перапіску з чытачамі і пакідае за сабою права рукапісы не рэцэнзаваць і не вяртаць.
Газета друкуецца на беларускай і рускай мовах.

Падпісана да друку 9 чэрвеня 1999г.
Час падпісання 8:00.
Надрукавана ў Баранавіцкай узбуйненай друкарні, г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80.

Падпісныя індэксы:
64042 (індывідуальная)
63818 (ведамасная)
Наклад 7. 000 экз.
Заказ № 1596
© «Газета Слонімская»
Спасылка на «ГС» абавязковая
Ⓚ Матэрыялы публікуюцца на правах рэкламы

E-MAIL:gs@irex.minsk.by HTTP://www.irex.minsk.by/gs

ЖУРНАЛІСЦКАЕ РАССЛЕДАВАННЕ

# ПА КІМ ПЛАЧА ЗВОН?

Пасля абвяшчэння незалежнасці Беларусі ў 1991 годзе пачалося аднаўленне храма ў Сынковічах. У 1993 годзе ён быў ачышчаны ад смецця і бруду, адрамантаваны і асвечаны мітрапалітам Мінскім і Слуцкім Філарэтам. Цяпер Сынковіцкая царква на кожнае свята кліча да сябе праваслаўных вернікаў. Але шмат яшчэ трэба фінансаў і працы, каб цалкам рэстаўрыраваць яе і вярнуць тое, што было з гадамі знішчана і страчана. Знік з Сынковіцкай царквы і звон. А можа знік той, на якім быў надпіс "Anno Domini. 1460"? Хто яго ведае. Але той адзіны звон, які месціўся ў званіцы Сынковіцкага храма, быў зняты і адвезены ў Мінск. Гэты факт пацвердзіў і настаяцель царквы айцец Леанід. Паўстае пытанне: навошта знялі звон са славутага помніка, які ахоўваўся дзяржавай? За пытаннем вымалёўваецца і адказ.

У канцы 60-х гадоў пачалося будаўніцтва мемарыяльнага архітэктурна-скульптурнага ансамбля "Хатынь", што ў 54 км ад Мінска. Па загаду Машэрава з усёй Беларусі на мінскі радыятарны завод звозіліся старыя званы з храмаў для Хатыні. Сюды, відаць, трапіў і звон з Сынковіцкай царквы. Больш падрабязна я папрасіў расказаць пра гэта першага дырэктара мемарыяльнага комплексу "Хатынь" Анатоля Белага.

— Я, сапраўды, працаваў першым дырэктарам "Хатыні", — пачаў размову Анатоль Яфімавіч. — Калі ўзнікла патрэба ў званах для комплексу, нейкі "руплівец" прапанаваў адліваць іх са старых званоў. Іх пачалі звозіць на радыятарны завод, дзе званы калолі. За аснову для адліву былі выбраны адзін сапраўдны звон з выдатнай формай, гучаннем, а галоўнае, ён меў патрэбныя памеры. Вучоныя ўзяліся распрацоўваць адмысловую электронную сістэму падачы гучання. Гэты звон цяпер вісіць на мемарыяльным зрубе хаты Камінскіх, каля гумна, дзе карнікі спалілі людзей. Гучанне яго адметнае, і яно выдзяляецца сваёй чысцінёй і ўрачыстасцю гуку.



Сынковіцкая крэпасць-царква

Па словах Анатоля Белага, хаця званы для Хатыні адлівалі з лепшых царкоўных званоў, але дасягнуць добрага гучання нікому не ўдалося. Усе разлічвалі, што з царкоўнай бронзы будзе гук адмысловы, але забыліся пра адну акалічнасць — пра ўгар металу, які дасягае 7%. Але металы-прысадкі, волава і іншыя, робяць угар значна большым за 7%. Вось гэта і зрабіла адзіна наноў званы з адмысловага металу і бясцэннага народнага скарбу глухімі па гучанню. Хто быў ініцыятарам таго, каб звозіць званы з храмаў Беларусі і пераплаўляць іх для Хатыні, я не ведаю. Бо ўсё тады рабілася па загаду ЦК КПБ і асабіста П.М.Машэрава. Ён цалкам курыраваў гэты мемарыяльны комплекс. Магчыма, ідэю падала тая брыгада майстроў, якая ўзялася распрацоўваць рытмічнасць і музычную зададзенасць гучання званоў Хатыні. Для іх было пабудавана спецыяльнае памяшканне. Там пастаянна дзяжурыў адзін чалавек. Удары молата па звону ажыццяўляліся па сігналу запраграміраванага пульта. Відаць, там і быў знішчаны звон з Сынковіцкай царквы...

Са слоў Анатоля Белага я даведаўся, што на заводзе ў той час прысутнічаў скульптар Аляксандр Шатэрнік. Па тэлефоне звязаўся з Аляксандрам. Ён сказаў, што "у той час вельмі шмат пабілі званоў, дабіваючыся ад іх гучання. Але званы маўчалі. Сюды іх звозілі з усёй Беларусі, відаць, быў там звон і з Сынковіч".

Зусім іншыя думкі выказаў мне на гэты конт адзін з архітэктараў Хатыні, Леанід Левін:

— Для мемарыяльнага комплексу "Хатынь" было выліта 26 званоў. Усе аднолькавага памеру. Адлівалiся званы з формы звону, які знайшлі каля адной старой і разваленай царквы.

Але дзе знайшлі, спадар Левін не памятае. Шкада...

Званы на Беларусі былі вядомы яшчэ з XI стагоддзя. Калі званы, напрыклад, здымалі з гарадской ратушы, што лічылася выключнай з'явай, гэта было знакам пакарання горада, пазбаўлення права на самакіраванне. За што была пакарана Сынковіцкая царква, а таксама сотні іншых храмаў Беларусі? Няўжо дзеля Хатыні? Відаць, так. Дык па кім плача звон?..

**Сяргей ЧЫГРЫН**

Фота Мікалая СУПРУНА



Фота Віктара МАКОЎСКАГА

Мітрапаліт Філарэт і былы міністр замежных спраў Пётр Краўчанка на адкрыцці Сынковіцкай царквы, 1993г.

## Музей белорусского еврейства в Слониме

**В ближайшее время предполагается начать восстановление здания древней синагоги в Слониме. Как сообщил президент Иудейского религиозного объединения (ИРО) в Республике Беларусь Юрий Дорн, работы по реставрации этого выдающегося памятника архитектуры зрелого барокко, сооруженного в 1642 году, будут проводиться в контакте с ЮНЕСКО при поддержке международных финансовых организаций.**



Слонімская сінагога, 1943г.

После реконструкции в здании синагоги планируется разместить музей, в котором будут представлены письменные, вещевые и изобразительные материалы, посвященные истории и культуре белорусского еврейства.

Слонимская синагога является одним из 48 старинных зданий, ранее принадлежавших еврейской общине страны, которые стоят на учете в объединении и требуют восстановления своего первоначального облика.

**БелаПАН**

НАШ КАЛЯНДАР

**13 чэрвеня споўнілася 6 100 гадоў з дня нараджэння Паўла Вікенцьевіча Крынчыка, дзеяча беларускага нацыянальна-вызваленчага руху.**

Павел Вікенцьевіч Крынчык даводзіўся дваюрадным братам вядомаму палітыку Паўлу Сцяпанавічу Крынчыку. Абодва яны паходзілі з вёскі Едначы. Падчас грамадзянскай вайны Павел Вікенцьевіч служыў у Чырвонай Арміі, ваяваў на паўднёвых франтах. Трапіў у палон да казакаў пад Екацярынаславам, але ўцёк, зноў ваяваў.

У 1922 годзе, разам з бежанцамі, Крынчык вярнуўся на Бацькаўшчыну і адразу быў прызваны ў польскае войска, дзе праслужыў два гады. Пасля жыў у Едначах, быў актыўным сябрам падпольнай Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі. За гэта ён цярпеў пераслед з боку польскіх уладаў. У кастрычніку 1933 года быў асуджаны на 2 гады турмы і 5 гадоў пазбаўлення грамадзянскіх правоў, знаходзіўся пад наглядам паліцыі.

Падчас нямецкай акупацыі Павел Крынчык быў сакратаром Сянькоўшчынскай антыфашысцкай падпольнай арганізацыі, якая забяспечвала партызанаў зброяй, боеприпасамі, медыкаментамі і разведданымі. Пасля вайны ён настаўнічаў у роднай вёсцы. Памёр Павел Вікенцьевіч Крынчык у 1980 г., пахаваны ў Слоніме.

**Сяргей ЁРШ**

ГОРАД. ВУЛІЦА ПУШКІНА

# ПАМІЖ САБОРАМ І КАПЛІЦАЙ

З даўніх часоў на працягу некалькіх стагоддзяў вуліца гэта называлася Апанасаўскай. А калі напрыканцы XVIII стагоддзя Беларусь была далучана да Расійскай імперыі, вуліцу сталі называць Саборнай, пасля — Раманаўскай (ад прозвішча царскай дынастыі). Пад польскай уладай, у 1920-30-я гады, яе зноў перайменавалі, назвалі імем польскага караля Панятоўскага. У 1941-44 гадах яна была Парквай (на месцы вечнага агню раней знаходзіўся слонімскі парк), а пасля вяртання савецкай улады атрымала новую назву — імя Аляксандра Пушкіна, знакамітага рускага паэта.

### Саджанцы на стадыёне

Так сталася, што даваенных жыхароў вуліцы засталося тут мала. Толькі адзінкі памятаюць, як яна выглядала да вайны і хто на ёй жыў. Рык Юрый Казіміравіч гаворыць, што на вуліцы Панятоўскага жыло шмат яўрэяў. Тут быў і яўрэйскі дзіцячы дом, і інтэрнат гімназістаў (у будынку сённяшняй падатковай інспекцыі, а сама гімназія знаходзілася ў будынку НВК на Савецкай вуліцы), прыватная прадуктовая крама. Падчас нямецкай акупацыі ўсе яўрэі былі сагнаны ў гета, а пасля расстраляны... А на месцы стадыёна "Юнацтва" жыў садавод Вішнеўскі, у якога быў вялікі сад. Ён вырошчваў саджанцы і прадаваў іх. У пасляваенныя гады Вішнеўскі выехаў у Польшчу. А на месцы яго былога сада пабудавалі стадыён. Помніць Юрый Рык, што падчас нямецкай акупацыі на вуліцы знаходзіўся краязнаўчы музей Язэпа Стаброўскага. На ўсё жыццё запомніўся адзін з экспанатаў — пудзіла двухгаловага цяляці.

У першыя пасляваенныя гады, у часы сталінскіх рэпрэсій, на вуліцы Пушкіна знаходзілася дзяржбяспека. Па яго словах, чэкісты працавалі ноччу.Туды машыны кагосьці прывозілі, а потым вывозілі. Людзі кажуць, што, калі пазней на прылягаючай да будынка тэрыторыі былой дзяржбяспекі пачалі рабіць агароды, то знаходзілі чалавечыя косці... А ў падвале будынка знайшлі камеру ў рост чалавека, у якой чалавек мог толькі стаяць...

### Радзіма там, дзе ты нарадзіўся

Бекір Раманавіч Радэцкі — карэнны слонімец. Раней ён жыў на Татарскай вуліцы, а ў апошнія дзесяцігоддзі жыве на вуліцы Пушкіна. Ён на пенсіі. Вельмі захапляецца разьбой па дрэву. Адмыслова шукае для гэтых мэтаў карэльскую бярозу.

Успамінае Бекір Радэцкі, як у 1944 годзе ён, 16-гадовы юнак, пайшоў запісвацца ў слонімскую школу ФЗН. Яго і яшчэ 30-40 хлопцаў пагрузілі ў цягнік і павезлі на Урал. Некаторыя па дарозе паўцякалі. Бекір апынуўся на металургічным заводзе ў горадзе Сяроў, дзе працаваў слесарам. Там ён сустрэў заканчэнне вайны. Калі Радэцкі атрымаў вестку пра смерць маці, паехаў на Бацькаўшчыну ў водпуск. У Слоніме ён затрымаўся, а тым часам з Урала ўжо прыйшла ў адпаведныя органы папера пра яго "невяртанне на ваенны завод". За гэта Бекіра Раманавіча арыштавалі і пасадзілі ў слонімскую турму. Яго асудзілі на 5 гадоў турмы. Некалькі гадоў будаваў Бекір Радэцкі мінскі трактарны завод...

Вызвалілі па амністыі. Накіравалі ў Пятралевічы на лесазавод. Потым чатыры з паловай гады служыў на Далёкім Усходзе, будаваў дамы.

— На гэтай вуліцы заўсёды жылі татары. Плутажыцкія, Мухарскія, — гаворыць Бекір Радэцкі. — У школе за польскім часам нас вучылі, што "радзіма там, дзе ты нарадзіўся". Таму і павінны мы абараняць нашу родную беларускую зямлю, а не ваяваць дзесьці ў Расіі. Бо там не наша радзіма...

### Людзі на балоце

Каля апошняга дома № 116 мы спаткалі Лідзію Іванаўну Шыпчук. Жыве яна на вуліцы Пушкіна з 50-х гадоў. Пераехала сюды з Азярніцы. — Прывыкла я тут жыць, — кажа Лідзія Іванаўна, — спакойна, утульна. А на цягнікі, што непадалёку ходзяць, ужо не звяртаю ўвагі...

Па яе словах, у свой час давялося мясцовым жыхарам пазмагацца за зямлю, якую доўга адваёўвалі ў балота. Адваявалі. Многія жыхары тут трымаюць кароў, што для горада ўжо рэдкасць. З гаспадаркай сёння лягчэй пражыць.

Лідзія Іванаўна згадала, што калі яны з мужам капалі дол пад падмурак хаты, то знайшлі... снарады. — Пайшоў муж у ваенкамат, — успамінае Лідзія Шыпчук. — Прыехалі сапёры і на тым месцы адкапалі шмат снарадаў. Вывозілі іх за горад, узрывалі... А дом мы пабудавалі.

### Сучаснае аблічча

Сёння вуліца Пушкіна — гэта прыватны сектар. Тут захавалася шмат старых будынкаў. Напрыклад, будынак цяперашняга ваенкамата, офіс падатковай інспекцыі — былы кінатэатр "17 верасня"— і іншыя. Няма цаны помніку архітэктуры і рэлігійнай святыні — капліцы Св. Дамініка. Калісьці падобныя капліцы стаялі на ўсіх уездах у Слонім, але ў часы савецкай улады яны былі знішчаны. Саму фігурку Св. Дамініка выратавала і перахоўвала адна слонімская жанчына.

Калісьці на пачатку вуліцы Пушкіна знаходзілася дошка гонару, дзе змяшчаліся здымкі перадавікоў вытворчасці. Цяпер яе няма не таму, што людзі сталі працаваць горш, а таму, што гэта "галерэя" там была не да месца. Побач хутка растуць сцены праваслаўнага сабора.

**Сяргей ЁРШ**



Так выглядаў гарадскі парк на вуліцы Пушкіна ў даваенны час

